



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

22 студзеня 2021 года №4 (1343)

18+


# Што трэба ведаць пра тэхагляд



Ці трэба аптэчка і медыцынская даведка, як тэхагляд будуць правяраць супрацоўнікі ДАІ і што яшчэ важна ведаць аўтааматарам? Раскязвае прадстаўнік УП «Белтэхагляд»

старонка 2

Фота Настассі УТКІНАЙ.

## Што рабіць, калі вас затрымалі

старонкі 18-19

## «Пагражалі згвалтаваць». Маладзечанца судзяць па крымінальнай справе за 9 жніўня

старонка 20

## На Вілейшчыне пачынаецца вакцынацыя медыкаў ад каронавіруса

старонка 5

## Каманда «Маладзечна-мэблі» заявіла, што здымаецца з гарадской спартакіяды

старонка 22


ISSN 1991–7155


Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

# Што трэба ведаць пра тэхагляд

**На асноўныя пытанні, якія хвалююць аўтааматараў, адказвае вядучы інжынер па допуску транспартных сродкаў да ўдзелу ў дарожным руху філіяла УП «Белтэхагляд» у Мінскай вобласці Вадзім Піліпавец.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Што важна ведаць аўтааматарам пра тэхагляд, расказвае прадстаўнік «Белтэхагляду».

### 1) Ці ёсць цяпер чэргі ахвотных прайсці тэхагляд? Ці заўважалі сезонныя ўсплёскі?

Ад 1 студзеня ўступілі ў сілу змены ў Падатковы кодэкс. Імі прадугледжаная адвязка дзяржаўнай пошліны ад працэдуры па выдачы дазволаў на допуск транспартных сродкаў да ўдзелу ў дарожным руху. Яе замяніў транспартны падатак.

Гэта тэма абмяркоўвалася на працягу некалькіх гадоў, і трэба адзначыць, што за гэты час паток аўтамабіляў на дыягнастычныя станцыі істотна скараціўся.

> Прынятае рашэнне не стварыла ажыятаж сярод аўтаўладальнікаў, узніклі чэргі, але цяпер працуем у штатным рэжыме.

Некаторых кіроўцаў зацікавіла магчымасць папярэдняга запісу для праходжання дзяржтэхагляду, у тым ліку праз інтэрнэт. Думаю, што сезонны ўсплёск можа адбыцца вясной, але мы і да яго падрыхтаваныя.

### 2) Колькі каштуе прайсці тэхагляд?

Кіроўца транспартнага сродку павінны аплаціць кантрольна-дыягнастычныя работы, якія праводзіць з яго транспартным сродкам дыягнастычная станцыя. Іх цана вар'іруецца ў залежнасці ад дыягнастычнай станцыі і катэгорыі транспартнага сродку, складае ад 20 да 40 рублёў.

Акрамя таго, аўтаўладальнік аплачвае цану адміністрацыйнай працэдуры па выдачы дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху. Яна цяпер складае 0,3 базавай велічыні, або 8 рублёў 70 капеек.

### 3) Якая чакае адказнасць, калі не прайсці тэхагляд?

Згодна з часткай пятай артыкула 18.12 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, кіраванне транспартным сродкам без дазволу на допуск да ўдзелу ў дарожным руху цягне папярэджанне або штраф у памеры ад адной да трох базавых велічынь.

> Паўторнае парушэнне на працягу года – штраф у памеры ад дзвюх да пяці базавых велічынь паводле часткі 9 артыкула 18.12 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Юрыдычная асоба, якая дапусціла да дарожнага руху транспартны сродак без дазволу на допуск, можа атрымаць штраф ад чатырох да шасці базавых велічынь.

У студзені прынялі змены ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія ўступяць у сілу ад 1 сакавіка. Яны прадугледжваюць магчымасць кантраляваць з выкарыстаннем сродкаў фота- і відэафіксацыі, ці ёсць на транспартным сродку дазвол на допуск да ўдзелу ў дарожным руху.

### 4) Як аўтааматарам рыхтавацца да тэхагляду?

Адзін з асноўных дакументаў, што вызначае патрабаванні да тэхнічнага стану транспартных сродкаў у межах дзяржаўнага тэхнічнага агляду, з'яўляецца тэхнічны кодэкс усталяванай практыкі ТКП 309-2011 «Дзяржаўны тэхнічны агляд транспартных сродкаў. Парадак правядзення праверкі тэхнічнага стану транспартных сродкаў». З ім можна азнаёміцца на сайце **gto.by**.

Адным з патрабаванняў дадзенага нарматыўнага прававога акта з'яўляецца тое, што транспартны сродак павінны быць укамплектаваны аптэчкай. Пералік зместу аптэчкі павінны адпавядаць патрабаванням Міністэрства аховы здароўя, усе сродкі павінны быць прыдатныя да ўжывання.

> А вось мець пры сабе медыцынскую даведку падчас праходжання тэхагляду як фізічным, так і юрыдычным асобам неабавязкова.

### 5) Ці можа прайсці тэхагляд не ўласнік аўтамабіля?

Дзяржаўны тэхнічны агляд аўтамабіля можа прайсці як яго ўласнік, так і ўладальнік, які мае адпаведную катэгорыю ў вадзіцельскім пасведчанні.

Уласнік – гэта асоба, якая валодае маёмасцю на аснове дакумента, што пацвярджае гэта права. Уладальнік – той, хто фактычна валодае рэччу, але не заўсёды мае права ўласнасці.

### 6) Якія асаблівасці ўзніклі ў сувязі з транспартным падаткам?

Адмена дзяржпошліны за выдачу дазволу ніяк не адбілася на патрабаваннях да тэхналагічнага працэсу праверкі аўтамабіля на дыягнастычных станцыях.

### 7) Колькі электрамабіляў праходзяць тэхагляд? Якія асаблівасці ёсць для іх?

Цяпер дзяржава стымулюе аўтаўладальнікаў набываць электрамабілі, і іх колькасць на дыягнастычных станцыях павялічылася.

Адзіная асаблівасць праверкі такіх транспартных сродкаў пры тэхаглядзе, можна нават назваць яе льготай, – няма праверкі экалагічных параметраў аўтамабіля.

### 8) З якімі непаладкамі магчыма прайсці тэхагляд?

На гэта пытанне ў некалькіх словах не адкажаш. Пры правядзенні дзяржаўнага тэхнічнага агляду выкарыстоўваюць такія паняцці, як «заўвага» і «неадпаведнасць». Для кожнай сістэмы транспартнага сродку яны вызначаныя. І лепш за ўсё будзе, калі аўтаўладальнік азнаёміцца з імі самастойна ў ТКП 309-2011 «Дзяржаўны тэхнічны агляд транспартных сродкаў. Парадак правядзення праверкі тэхнічнага стану транспартных сродкаў».

### 9) Калі кіроўца прайшоў тэхагляд, ён можа быць упэўнены, што аўтамабіль бяспечны цягам усяго тэрміну дзейнасці налепкі?

Тэхнічны стан транспартнага сродку залежыць ад многіх фактараў: якасці тэхнічнага абслугоўвання і рамонту, расходных матэрыялаў, манеры кіравання аўтаўладальніка, стану дарог, перыяду года.

> Нельга казаць пра тое, што, прайшоўшы дзяржаўны тэхнічны агляд, кіроўца гарантуе сабе і іншым удзельнікам дарожнага руху, што яго аўтамабіль будзе спраўны на працягу вызначанага тэрміну.

Толькі кіроўца можа і павінны даваць такую гарантыю сабе і іншым. Гэта залежыць толькі ад яго дзеянняў або бяздзейнасці.

### 10) Як будзе наладжаная праверка тэхагляду супрацоўнікамі ДАІ?

«Белтэхагляд» пастаянна праводзіць работу па ўзаемадзеянні з упаўнаважанымі органамі і арганізацыямі, у тым ліку, Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыяй. Прадстаўнікі ДАІ маюць доступ да інфармацыйнай сістэмы нашага прадпрыемства і ў рэжыме рэальнага часу могуць атрымліваць інфармацыю аб праходжанні тым ці іншым транспартным сродкам дзяржаўнага тэхнічнага агляду і атрыманні ім дазволу на допуск да ўдзелу ў дарожным руху.



Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77



У лесе на Вілейшчыне.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**132 600 чалавек**

складае насельніцтва Маладзечаншчыны згодна з дадзенымі апошняга перапісу

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.01 | 21.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5696 | **2.5391** |
| Еўра | 3.1368 | **3.0853** |
| Злоты, 10 | 6.9198 | **6.8067** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4919 | **3.4616** |
| Грыўня, 100 | 9.1903 | **8.9904** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **13.01** | **20.01** |
| Еўра | 3.1000/3.2000 | **3.0200/3.1200** |
| Долар ЗША | 2.5400/2.6200 | **2.5100/2.5900** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 13.01 | 20.01 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,96 | **20,45** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,10 | **3,50** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,76** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,80 | **4,90** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,70 | **4,30** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **6,20** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,80 | **18,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,00** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,50 | **3,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,00** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 3,00 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 4,80 | **2,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 2,90 | **4,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Морква, 1 кг | 0,90 | **1,00** |
| Памідоры, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,00** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **6,99** |
| Авакада, 1 кг | 12,00 | **14,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **4,00** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **–** |
| Вінаград, 1 кг | 4,90 | **6,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **5,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **4,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **5,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,30** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Хурма, 1 кг | 2,50 | **3,70** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | **2,30** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

# Лясгасы рэгіёна падключыліся да адзінай сістэмы ўліку драўніны

**Задача сістэмы – інфармацыйная падтрымка і аўтаматызацыя першасных рэгістрацыйна-ўліковых аперацый, падача аператыўных дадзеных і аналітычных справаздач пра драўніну, якую ўжо нарыхтавалі, і кантроль за перамяшчэннем лесаматэрыялаў.**

Сістэма збірае інфармацыю пра дазвольныя дакументы на высечку лесу, пра аб'ём нарыхтаванай драўніны на лесасеках, пра дазвольныя дакументы на водпуск драўніны і яе перамяшчэнне, аб прыёмцы драўніны спажыўцом.

Як расказалі ў Вілейскім лягасе, для працы сістэмы тут набылі неабходнае абсталяванне: смартфоны, мабільныя тэрмапрынтары і іншыя прылады. Спецыялісты прайшлі вучобу.

**Змянілася і адміністрацыйнае дзяленне лясгаса – у кожным з дзесяці лясніцтваў дадалі па адным участку.**

– Сістэма электроннага ўліку драўніны ўжо дзейнічае за мяжой – у Польшчы, у краінах Балтыі. А цяпер падключыліся і мы, – расказала карэспандэнту намеснік дырэктара Вілейскага доследнага лясгаса **Таццяна Анішчык**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Прадавалі небяспечнае дзіцячае адзенне

**АШМЯНЫ**

**Небяспечнае дзіцячае адзенне імпартнай вытворчасці заўважылі ў продажы ў Ашмянах. Пра гэта расказалі ў аддзеле дзяржнагляду горада Ліды Гродзенскай абласной інспекцыі Дзяржстандарту.**

Адзенне падчас праверкі знайшлі ў адной з крамаў у Ашмянах. Не выключана, што яно магло рэалізоўвацца і ў іншых месцах.

– Многія матэрыялы, якія прымяняюцца для шыцця адзення і абутку, на самой справе ўяўляюць сур'ёзную пагрозу для здароўя. Для патанення нядобрасумленныя вытворцы выкарыстоўваюць тканіны нізкай якасці. Сур'ёзнасць наступстваў вар'іруецца ад звычайнага дыскамфорту або раздражнення да цяжкай алергіі, – распавялі ў аддзеле дзяржнагляду.

У прыватнасці, пры выпрабаваннях у акрэдытаванай лабараторыі высветлілася, што дзіцячыя штаны BONITO не адпавядалі патрабаванням тэхрэгламенту па паказчыку гіграскапічнасці. Ён склаў 1% пры норме не менш за 6%. Таксама небяспечным па гэтым паказчыку (2,9% пры норме не менш за 8%) апынулася дзіцячая блузка Ubang.

А на маркіроўцы дзіцячых ласін UP BABY і пінжака Саса была паказаная недакладная інфармацыя. У першым выпадку замест заяўленых у складзе 80% бавоўны было амаль 97% віскозы. Пінжак, у складзе сыравіны якога вытворца паказаў 100% бавоўны, быў з поліэстэру.

Па выніках праверкі тавары, якія не адпавядаюць устаноўленым патрабаванням, забароненыя да рэалізацыі. Дзеянне сертыфікатаў адпаведнасці для іх у Беларусі спыненае.

**Паводле БЕЛТА.**

## З кватэры на Хмяльніцкага выратавалі мужчыну

МАЛАДЗЕЧНА

15 студзеня каля гадзіны ночы выратавальнікам паступіла паведамленне аб загаранні ў кватэры на вуліцы Хмяльніцкага ў Маладзечне.

Падраздзяленні МНС, якія прыехалі на месца, заўважылі задымленне ў кватэры на чацвертым паверсе пяціпавярховага шматкватэрнага жылога дома.

Работнікі МНС з кватэры выратавалі мужа гаспадыні. Мужчына брыгадай хуткай медыцынскай дапамогі з папяраднім дыягназам «тэрмічныя апёкі полымем пляча і перадплечча» быў дастаўлены ў бальніцу. Пасля агляду ад шпіталізацыі адмовіўся.

Праз балкон кватэры ратавальнікі эвакуіравалі гаспадыню. Жанчына не пацярпела.

Агнём пашкоджаны рэчы на плошчы 1,5 квадратнага метра, закураныя сцены ў жылым пакоі. Прычына высвятляецца. Разглядаецца версія – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мужчыну будуць судзіць за замах на забойства міліцыянера

МАЛАДЗЕЧНА

Пракуратура Мінскай вобласці накіравала ў Мінскі абласны суд крымінальную справу ў дачыненні да 60-гадовага Г., якому інкрымінаваўся замах на забойства міліцыянера ў сувязі з выкананнем ім абавязкаў па ахове грамадскага парадку, а таксама гвалт і пагроза яго прымянення ў мэтах перашкоды законнай дзейнасці. Падзеі адбываліся ў Маладзечне.

Два міліцыянеры 30 жніўня каля паловы пятай вечара, праязджаючы на службовым аўтамабілі па Грамадоўскай у Маладзечне, убачылі на ўзбочыне нецвярозага Г.

Міліцыянеры пад'ехалі да мужчыны. Пасля таго як адзін з іх адчыніў дзверы машыны, Г. нанёс яму ўдар нажом у галаву і шыю. Утрымліваючы абвінавачанага за рукі, супрацоўнік РАУС вышаў з машыны і атрымаў яшчэ не менш за пяць удараў нажом у жыццёва важныя органы і па нагах.

Пры гэтым фігурант наўмысна нанёс другому супрацоўніку міліцыі ўдар нажом у галёнку.

**Паводле Генеральнай пракуратуры.**

## У пажары пацярпеў трохгадовы хлопчык

СМАРГОНЬ

15 студзеня днём паступіла паведамленне пра пажар у Ракаўцах Смаргонскага раёна. У доме быў 56-гадовы мясцовы жыхар разам з трохгадовым пасынкам свайго брата.

Мужчыну з дзіцем даставілі ў бальніцу. Яны ў цяжкім стане.

Працуюць выратавальнікі.

Устаноўлена, што папярэдняй прычынай пажару стаў няспраўны стан электраправодкі.

Следчыя агледзелі месца здарэння, прызначылі экспертызы. Смаргонскі РАСК праводзіць праверку здарэння.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Зніклага 15 студзеня вілейчука знайшлі мёртвым

ВІЛЕЙКА

57-гадовы віляйчук знік 15 студзеня. Каля чатырох дня ён пайшоў з дому і не вярнуўся. Пра зніkненне мужчыны паведамілі родныя.

Зніклага вілейчука шукала міліцыя і валанцёры. 17 студзеня каля дзвюх гадзін дня валанцёры атрада «Анёл» расказалі карэспандэнту, што мужчыну знайшлі мёртвым у Вілейцы.

– Гэта ўсе падрабязнасці, якія мы можам паведаміць СМІ. Больш нічога сказаць не можам, будзе праводзіцца расследаванне, – адзначыў каардынатар «Анёла» **Максім Федаровіч**.

Смерць мужчыны пацвердзілі і ў Вілейскім РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Сутыкнуліся легкавік і цягач з прычэпам

МЯДЗЕЛ

16 студзеня пасля 22 гадзін на аўтадарозе Р-95 Лынтупы-Свір-Смаргонь-Крэва-Гальшаны Мядзельскага раёна цягач «Вольва» з прычэпам сутыкнуўся з «Пежо-406». Пацярпеў адзін удзельнік.

39-гадовы кіроўца, рухаючыся на аўтамабілі «Пежо-406» з боку Камарова, на скрыжаванні нераўназначных дарог, паварочваючы направа, не саступіў дарогу аўтамашыне ў складзе цягача «Вольва» з паўпрычэпам «Шмітц», якой кіраваў 45-гадовы кіроўца. У выніку машыны сутыкнуліся.

Пацярпеў кіроўца аўтамабіля «Пежо», але шпіталізацыя яму не спатрэбілася. Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



Фарбу, каб абліць саперніка, пакрыўджаны муж знайшоў у кватэры.

Фота kraski-net.ru

# У Чысці мужчына пабіў саперніка і выліў на яго бляшанку зялёнай фарбы

**У дзяжурную часць Маладзечанскага РАУС паведамілі са станцыі хуткай дапамогі, што ў пасёлку Чысць медыкі дапамагалі збітаму 39-гадоваму мужчыну. З множнымі траўмамі пацярпелага забралі ў раённую бальніцу. На месца здарэння ў пасёлак выбылі міліцыянеры.**

МАЛАДЗЕЧНА

Аператыўнікі высветлілі, што падставай для канфлікту сталі перыпетыі ў асабістым жыцці 37-гадовай мясцовай жыхаркі. Жанчына ўжо больш за год не жыве са сваім законным мужам і нібыта збіраецца з ім разысціся. Гэта не задавальняла мужа. У саперніkаў часам здараліся высвятленні адносін.

У той дзень 40-гадовы жыхар пасёлка праходзіў міма дома, дзе пражывае жонка, і, запрыкмеціўшы святло ў вокнах, накіраваўся да яе ў кватэру для чарговага высвятлення адносін. Аднак жанчыны ў гэты час не было. Быў толькі сужыцель. Паміж сапернікамі ўспыхнула сварка.

Муж нанёс сапернику не менш за тры ўдары рукамі і нагамі па галаве, тулаве і канечнасцях, а затым выліў на апанента пяць літраў зялёнай фарбы.

У пошуках дапамогі пацярпелы мужчына выпаўз з кватэры на лесвічную пляцоўку і пастукаў у дзверы да суседзяў. Менавіта яны і выклікалі брыгаду медыкаў. Цяпер пацярпелы знаходзіцца ў медыцынскай установе, яго жыццю нічога не пагражае.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку на працягу сутак затрымалі падазраванага ў нанясенні цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Сам фігурант растлумачыў, што прычынай здзяйснення ўчынку стала рэўнасць.

**РАУС Маладзечна.**

## За мінулы год кібер-махляры скралі больш за 280 тысяч рублёў

МАЛАДЗЕЧНА

Летась на Маладзечаншчыне зафіксавалі больш за трыста выпадкаў кіберзлачынстваў. Сума шкоды ад такіх злачынстваў склала амаль 282 тысячы рублёў, паведамляюць у РАУС Маладзечна.

Часта ашуканцы тэлефануюць грамадзянам пад выглядам супрацоўнікаў крэдытна-фінансавых устаноў. Прапануючы дапамагчы адмяніць нібыта спісанне грошай, зламыснікі выманьваюць рэквізіты банкаўскіх карт і выкрадаюць вялікія сумы. Падобныя злачынствы фіксуюцца штодзень і ў гэтым годзе. Ад 1 студзеня аферыстам удалося ўзбагаціцца за кошт даверлівых жыхароў раёна на суму каля 13 тысяч рублёў.

35-гадоваму жыхару Маладзечна ў мэсенджар паступіў званок нібыта з «Беларусбанка». У ходзе размовы з ілжэсупрацоўнікам фінансавай установы мужчына паведаміў рэквізіты дзвюх банкаўскіх плацежных картак. Здабытак махляроў склаў у агульнай суме больш за 2 500 рублёў.

Міліцыя заклікае грамадзян быць пільнымі. Нікому нельга выдаваць персанальныя дадзеныя – нумар банкаўскай карты, тэрмін яе дзеяння, CVV-код (тры лічбы з адваротнага боку карткі) і пароль ад інтэрнэт-банкінгу. Варта памятаць, што ні пры якіх абставінах супрацоўнікі банкаў не будуць тэлефанаваць кліентам па тэлефоне для ўдакладнення асабістых звестак.

**Аддзел інфармацыі.**

## На возеры Баторына патануў рыбак

МЯДЗЕЛ

Пра здарэнне расказаў начальнік Мядзельскай выратавальнай станцыі **Дзмітры Дамшэль**.

– Здарэнне адбылося 14 студзеня на возеры Баторына. Паведамленне пра тое, што тут патануў мужчына, у РАНС паступіла ў 11:37. Пасля спецыялісты паведамілі нам. З возера дасталі цела рыбака. Гэта быў 40-гадовы жыхар Мядзела, – расказаў начальнік станцыі.

Па яго словах, мужчына праваліўся пад лёд у тым месцы, дзе былі прамыіны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У агні загінулі бацька і дачка

АСТРАВЕЦ

Трагедыя здарылася ў вёсцы Дубнікі Варнянскага сельсавета Астравецкага раёна.

16 студзеня ў 13:20 выратавальнікам паступіла паведамленне пра пажар жылога дома ў Дубніках на Астравеччыне. У выніку пажару загінуў гаспадар дома і яго дачка. Агнём былі знішчаны таксама пасцельныя прыналежнасці. Прычыну пажару высвятляюць.

**Паводле МНС.**




Каб правесці працэдуру правільна, вілейскі медперсанал праходзіў вучобу.

# Медыкаў пачынаюць прышчапляць ад каронавіруса

## На чарзе – педагогі

ВІЛЕЙКА

**У Вілейскай ЦРБ чакаюць вакцыну ад COVID-19. У першай партыі будзе 130 доз. Ад панядзелка, 25 студзеня, пачнуць прышчапляць медыкаў. Пасля – педагогаў.**

Пра вакцыну і асаблівасці працэдуры расказала старшая медсястра Вілейскай ЦРБ **Аксана Барташэвіч**.

### Запісалася сорак медыкаў-добраахвотнікаў

– На гэтым тыдні чакаем 130 доз маскоўскай вакцыны. Ад панядзелка пачнём прышчапляць медыкаў. Ужо запісалася 40 добраахвотнікаў. Каб прышчапіцца, людзі павінны быць цалкам здаровыя. Вакцынаваць можна людзей ад 18 да 60 год. Нельга – цяжарных, жанчын, якія кормяць дзяцей грудным малаком, людзей, якія маюць цяжкую алергію, хварэюць на вострыя рэспіраторныя інфекцыі, – кажа медык.

Па словах Аксаны Леанідаўны, спачатку ўводзіцца першы кампанент вакцыны. Праз тры тыдні, калі ў чалавека няма ніякіх ускладненняў, уводзяць другі. Вакцына ўводзіцца ў плячо ўнутрымышачна. Старшая медсястра адзначыла, што вакцынацыя – добраахвотная і бясплатная.

### Пяць размарожаных доз трэба выкарыстаць за паўгадзіны

Вакцына захоўваецца ў замарожаным выглядзе пры тэмпературы мінус 18. Пасля размарожвання ёй можна карыстацца не больш за паўгадзіны.

**Таму калі медсястра размарозіць вакцыну, за дзвярыма ўжо павінна стаяць пяць чалавек, гатовых прышчапіцца.**

Па гэтай прычыне спісы добраахвотнікаў складаюць кратныя пяці.

Каб выканаць працэдуру правільна, дактары і медсёстры, якія будуць рабіць прышчэпкі і якія дапускаюць да працэдуры, прайшлі вучобу.

### Навошта перад прышчэпкай рабіць экспрэс-тэст

Некаторым перад вакцынацыяй медыкі будуць рэкамендаваць прайсці экспрэс-тэст на каронавірус. Калі ў арганізме чалавека ёсць антыцелы, прышчапляцца не мае сэнсу.

Па словах старшай медсястры, прышчапіць медыкаў плануюць за пару дзён. Пасля пачнуць вакцынацыю педагогаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дзе ў рэгіёне найбольш свабодных ложкаў для хворых на COVID-19

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

**Перапрафіляваныя пад прыём пацыентаў з COVID-19 аддзяленні ўстаноў аховы здароўя Мінскай вобласці неўзабаве вернуцца да звычайнага рэжыму працы.**

Пра гэта расказала начальнік галоўнага ўпраўлення па ахове здароўя Мінаблвыканкама **Наталля Баярская**.

– Захворванне на каронавірусную інфекцыю па краіне ніжэй, чым чакалася, таму многія ўстановы аховы здароўя вяртаюцца да звыклага рэжыму працы. Такая сітуацыя складваецца і ў цэнтральным рэгіёне, дзе на сённяшні дзень налічваецца каля 900 свабодных ложкаў, якія раней былі падрыхтаваныя для пацыентаў з COVID-19, – распавяла Наталля Баярская. – Калі ў далейшым будзе назірацца зніжэнне захворвання на пнеўманіі ў Мінскай вобласці, частка ложкавага фонду, які раней перапрафілявалі ва ўстановах аховы здароўя, паступова і паэтапна пачне пераходзіць на звычайны рэжым работы.

У стацыянарах Мінскай вобласці для пацыентаў з COVID-19 было перапрафілявана 32% ложкавага фонду.

Найбольшая колькасць свабодных ложкаў, па словах Наталлі Баярскай, налічваецца ў Мінскім абласным супрацьтуберкулёзным дыспансеры, ЦРБ Салігорскага, Слуцкага, Стаўбцоўскага, Клецкага, Валожынскага, Маладзечанскага, Вілейскага і Уздзенскага раёнаў.

**Паводле БелТА.**

## Ураджэнцу Ілы Лукашэнка ўручыў ордэн Пашаны

ВІЛЕЙКА

Міністра аховы здароўя **Дзмітрыя Піневіча**, ураджэнца Ілы, 16 студзеня Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў ордэнам Пашаны, паведамляе БелТА.

Па звестках Вікіпедыі ордэн уручаюць:

– за вялікія дасягненні ў вытворчай, навукова-даследчай, дзяржаўнай, сацыяльна-культурнай, спартыўнай, грамадскай і іншай дзейнасці;

– за высокія вытворчыя паказчыкі ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, будаўніцтве, сувязі, гандлі, жыллёва-камунальнай гаспадарцы, бытавым абслугоўванні насельніцтва, на транспарце і ў іншых галінах працоўнай дзейнасці;

– за значныя поспехі ў медыцынскім абслугоўванні насельніцтва, навучанні, выхаванні дзяцей і падлеткаў, падрыхтоўцы іх да працы і за шэраг іншых заслуг.

**Аддзел інфармацыі.**

## Павел Сапоцька больш не дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея

МАЛАДЗЕЧНА

Культуролаг Павел Сапоцька, ураджэнец Маладзечна, які з'яўляўся дырэктарам Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, пакідае сваю пасаду. 14 студзеня ён развітаўся з калектывам.

**Паўла Сапоцьку прызначылі дырэктарам музея ў сакавіку 2018 года, калі яму было 26 гадоў. Тады ён лічыўся адным з самых маладых дырэктараў у Беларусі. Сапоцька змяніў на пасадзе Алега Рыжкова, які кіраваў музеем з 2013 года.**

Павел нарадзіўся 4 студзеня 1992 года ў Маладзечне, дзе сёння жывуць яго родныя. Тут вучыўся ў мясцовай гімназіі №7. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, магістратуру і аспірантуру БДУКІМ. Выкладае на кафедры міжкультурных камунікацый гэтага ўніверсітэта.

На момант прызначэння Сапоцька ўзначальваў мастацкую галерэю «Універсітэт культуры».

**Паводле tut.by.**

## Замкі ў Крэве і Гальшанах працягнуць рэстаўраваць

АШМЯНЫ
СМАРГОНЬ

У 2021 годзе работы па рэстаўрацыі і кансервацыі Гальшанскага і Крэўскага замкаў працягнуць за кошт сродкаў рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў, паведамілі ва ўпраўленні культуры Гродзенскага аблвыканкама.

У прыватнасці, у былым замку Сапегаў у Гальшанах у гэтым годзе плануюць выканаць супрацьаварыйныя і кансервацыйныя работы на фрагменце паўночна-ўсходняга корпуса, які прымыкае да Паўночнай вежы.

– Гэта дазволіць захаваць корпус як найбольш значны фрагмент Гальшанскага замка. У памяшканнях, якія прымыкаюць да Паўночнай вежы, уладкуюць падлогу. Такі падыход дасць магчымасць наведнікам камфортна аглядаць фрагменты замка. Акрамя таго, гэта дазволіць пракласці зручны маршрут са склепа вежы на першы ўзровень, – адзначылі ва ўпраўленні культуры Гродзенскага аблвыканкама.

У Крэўскім замку ў гэтым годзе працягнуць рабіць дах на ўчастку сцяны, які прымыкае да Княжацкай вежы. Таксама плануецца закончыць аднаўленне ўязной брамы, усталяваць вароты.

**Паводле БЕЛТА.**

## Выхаванцы школы мастацтваў перамаглі ў конкурсе малюнкаў

СМАРГОНЬ

Тры дыпломы атрымалі выхаванцы школы мастацтваў у першым адкрытым рэгіянальным конкурсе дзіцячага малюнка «Зімовая казка».

Дыпломы лаўрэатаў першай ступені прысудзілі **Вікторыі Бабковай** і **Эльвіры Сялюк**, дыплом лаўрэата другой ступені – **Дар'і Фядотавай**. Настаўніц **Марыну Пахомаву** і **Святлану Дзенісенку** адзначылі граматамі за прафесійную падрыхтоўку ўдзельнікаў конкурсу, паведамляюць у Смаргонскім райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

• Прычэп да УАЗ, 1100 руб, ёмістасць з нержавеючай сталі 2х1,5х1 м, 2000 руб. Валожынскі раён в. Кражына. Т. (8-029) 1117119.

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

• Рухавік Д-240, ЗМЗ-53, А-01 у любым стане, запчасткі да іх. Т. (8-029) 6663675.*

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, цэнтр, 71 кв. м. Т. (8-044) 7626113.

• Гараж у ГК-21 у Маладзечне па вул.Ф.Скарыны. Т. (8-029) 3069199.

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі ў вёсцы Кражына Валожынскага раёна, 120 тыс. рублёў. Т. (8-029) 1117119.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў цэнтры г. Маладзечна з мэбляй. Т. (8-029) 3790722.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*



• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Паслугі сантэхніка. Ацяпленне. Водазабеспячэнне. Усе віды работ. ІП Трубач С.А. УНП 692250027. Т. (8-029) 7018908.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-25, 1988, з навясным абсталяваннем, 13 тыс. руб. Т. (8-029) 1117119.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова, ацёл у лютым. Т. (8-029) 2744479.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Дамашняе малако. Многа. Т. (8-029) 6162240.*

• Фотаапараты «Зеніт», «Альбар», аб'ектывы розныя. Т. (8-029) 2988005.

### ЗГУБЛЕНА

• Згубленае пасведчанне аб рэгістрацыі ТАА «КаркасГарант» №0079749 лічыць несапраўдным.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 А-1.*



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591 |
| **Ашмяны** | -01593 |
| **Валожын** | -01772 |
| **Вілейка** | -01771 |
| **Маладзечна** | -0176 |
| **Мядзел** | -01797 |
| **Смаргонь** | -01592 |



**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**У вас ёсць магчымасць зрабіць прыемнае родным і блізкім – размясціць віншаванне на старонках нашай газеты!**

Кошт – ад 2,50 рубля.

**Наш адрас:** г. Маладзечна, вул. Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518 (ГЦ «Тройка»)

**Тэл.** (8-0176) **53-78-04**
(8-029) **676-84-20**
(8-029) **573-28-47**

# Як летась працавалі інспектары аховы прыроды

СМАРГОНЬ

**У Смаргонскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету падвялі вынікі работы за мінулы год.**



Фота з суполкі «Навіны Вілейкі і Вілейшчыны» УКантакце.

Гэта рыба здабытая законна. Але так бывае не заўсёды.

У 2020 годзе падчас палявых мерапрыемстваў устанавілі 97 фактаў парушэнняў, у тым ліку 18 парушэнняў Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, 20 – Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання. Зафіксавалі 51 парушэнне Правілаў лесакарыстання і восем іншых парушэнняў. Пачалі дзве крымінальныя справы.

Канфіскавалі 92 сеткі агульнай працягласцю 2 кіламетры 527 метраў і сем іншых забароненых прылад лоўлі падчас іх выкарыстання. Яшчэ 54 сеткі агульнай працягласцю 1 кіламетр 460 метраў забралі ва ўладальнікаў падчас захоўвання і гандлю.

Людзей, якія ловяць рыбу незаконна і захоўваюць забароненыя прылады для рыбнай лоўлі, прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці. Яны атрымалі штраф ад пяці да пяцідзесяці базавых велічынь. Летась гэтыя сумы склалі ад 135 да 1350 рублёў. Сёлета штрафы павысяцца, бо ад 1 студзеня базавая велічыня склала 29 рублёў.

У 2020 годзе пяць грамадзян добраахвотна здалі 13 сетак і чатыры іншыя забароненыя прылады лоўлі.

Смаргонская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету прапануе фізічным асобам, якія захоўваюць у сябе забароненыя прылады рыбалоўства, добраахвотна здаць іх у інспекцыю. Грамадзяне, якія добраахвотна здалі, вызваляюцца ад адміністрацыйнай адказнасці.

Тэлефоны для даведак: **(8 01592) 4-40-74, (375-29) 151-23-62.**

**Дзяніс ЧАРТОВІЧ, Смаргонская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Дайджэст: Беларусь – без чэмпіянату, Tut.by – без статусу СМІ

## Што адбывалася ў Беларусі і свеце на гэтым тыдні

**Прапануем традыцыйны агляд падзей тыдня.**

### Калі ў Беларусі пачнуць прышчапляць ад каронавіруса ўсіх ахвотных

Па словах міністра аховы здароўя **Дзмітрыя Піневіча**, падпісаны кантракт на 170 тысяч вакцын «Спутник V».

– Гэта першая партыя вакцын. Яна разбітая на некалькі дробных партый. Да Новага года паступіла 20 тысяч вакцын, была пройдзеная праверка якасці іх бяспекі, – сказаў Піневіч.

Цяпер працягваюць вакцынацыю медыкаў. Міністэрства аховы здароўя чакае наступнай партыі прэпарата. Тады пачнуць прышчэпліваць педагогаў.

– У першым квартале гэтага года мы павінны выпусціць ужо пад беларускім брэндам вакцыну «Спутник V» сумесна з нашымі расійскімі калегамі на магутнасцях айчыннага фармпрадпрыемства «Белмедпрэпараты», – растлумачыў міністр.

Па яго словах, усіх ахвотных пачнуць вакцынаваць прыкладна ад красавіка, пасля вакцынацыі ўсіх уразлівых груп – медыкаў, педагогаў, работнікаў транспарту і іншых.

### Tut.by канчаткова пазбаўляецца статусу СМІ

Эканамічны суд Мінска адхіліў скаргу ТАА «Тутбай медыя» на рашэнне пазбавіць Tut.by статусу СМІ. Ад 19 студзеня яно афіцыйна ўступіла ў сілу.

Суд разгледзеў скаргу, але не знайшоў падстаў для адмены пастановы. Нагадаем, што ад 7 жніўня 2020 года Tut.by атрымаў чатыры папярэджанні па сваіх матэрыялах.

Пазбаўленне выдання статусу СМІ магчымае пасля двух і больш пісьмовых папярэджанняў на працягу аднаго года.

### У Беларусі забралі чэмпіянат свету па хакеі

Мінск пазбаўлены права на правядзенне чэмпіянату свету па хакеі 2021 года. Адпаведнае рашэнне апублікаванае на сайце ІІХФ.

Нагадаем, турнір павінны быў прайсці ў Рызе і Мінску ад 21 мая да 6 чэрвеня.

11 студзеня прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі хакея **Рэнэ Фазель** прыляцеў у Беларусь, дзе сустрэўся з **Аляксандрам Лукашэнкам**. Неўзабаве прэзідэнт ІІХФ таксама заявіў, што правесці чэмпіянат у Мінску будзе вельмі складана. Яшчэ да аб'яўлення пра адмену кампаніі Skoda, Nivea і Liqui Moly адмовіліся спансіраваць турнір, калі ён пройдзе ў Беларусі.

### Палітык Аляксей Навальны вярнуўся ў Расію з Берліна. Цяпер ён у СІЗА

17 студзеня расійскі палітык Аляксей Навальны вярнуўся з Берліна ў Маскву. Пяць месяцаў ён быў у Германіі, дзе лячыўся і праходзіў рэабілітацыю пасля атручэння.

Пасля прызямлення ў Шарамеццева, на пашпартным кантролі, Навальнага затрымалі. Яму прызначылі 30 сутак пад вартай.

Ад 29 снежня мінулага года ў Расіі Навальны знаходзіцца ў вышуку «за шматразовыя парушэнні выпрабавальнага тэрміну» па справе «Іў Рашэ».

Амбасады ЗША, Вялікабрытаніі, Германіі, Эстоніі, Францыі, Чэхіі і іншых дзяржаў асудзілі затрыманне палітыка і запатрабавалі яго неадкладнага вызвалення.

У Расіі Навальны вядомы як аўтар расследаванняў пра карупцыю ў Расіі. Пазіцыянуе сябе галоўным апанентам Уладзіміра Пуціна.

### Мінпрацы: Магчыма, сямейны капітал будуць даваць за другое дзіця

Міністр працы і сацыяльнай абароны **Ірына Касцевіч** на прэс-прэзентацыі асноўных напрамкаў праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2021-2025 гады распавяла аб развіцці сямейнага капіталу ў бягучай пяцігодцы.

Яна адзначыла, што могуць пашырыць лік атрымальнікаў сямейнага капіталу – яго прапануюць распаўсюдзіць як падтрымку пры нараджэнні другога дзіцяці:

– Калі мы прастымулюем нараджэнне другога дзіцяці, тым самым створым нізкі старт для пераходу на ўзровень шматдзетнай сям'і.

**Паводле «Нашай Нівы», СТБ, Міжнароднай хакейнай федэрацыі, meduza.io, БелТА.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Якія словы прыйшлі ў беларускую мову з нямецкай

**Мы робім на сняданак бутэрброд, глядзім на заснежаны дах, атрымліваем у магазіне рэшту… І, магчыма, не ведаем, што некаторыя з гэтых слоў стагоддзі таму прыйшлі да нас з нямецкай мовы. У мовазнаўстве такія словы называюцца германізмамі.**




Фота goethe.de.

Лінгвісты сцвярджаюць, што словы нямецкага паходжання ў параўнанні з іншымі запазычаннямі найбольш трывала захоўваюцца ў сучаснай беларускай мове.

Лінгвісты сцвярджаюць, што словы нямецкага паходжання ў параўнанні з іншымі запазычаннямі найбольш трывала захоўваюцца ў сучаснай беларускай мове.

### Усё пачалося з крыжовых паходаў і стасункаў з Рыгай

Нямецкія запазычанні трапілі ў беларускую мову з 13-15 стагоддзяў. У гэты час былі крыжовыя паходы і развіваліся гандлёвыя стасункі паміж паўночнымі гарадамі Беларусі і Рыгай – горадам, заснаваным этнічнымі немцамі.

Словы гэтага перыяду, хутчэй за ўсё, патрапілі ў беларускую мову непасрэдна з нямецкай. Яны сталі вядомыя нам з грамат і іншых дакументаў: **вага, шалі, рэшта, дах, цэх**.

### У беларускую – праз польскую і яўрэйскую

Найбольш германізмаў да 15-19 стагоддзяў прыходзіла да нас праз польскую мову, бо ў другой палове 16-18 стагоддзяў беларускія землі знаходзіліся ў складзе Рэчы Паспалітай. Нямецкія словы запазычваліся беларускай мовай часам ужо ў адаптаваным польскай выглядзе. Напрыклад **малюнак, ланцуг, жабрак, ліхтар, абцас, махляр, варштат, грунт, цэгла**. Праз пасрэдніцтва польскай словы ў беларускую мову трапілі і пазней. Гэта тлумачылася агульнай рэлігіяй – каталіцызмам, знаходжаннем заходняй часткі Беларусі ў складзе Польшчы.

Ад 15 стагоддзя германізмы таксама пачынаюць прыходзіць у нашу мову праз пасрэдніцтва ідыш – верхненямецкага дыялекту. Гэты працэс быў не самым актыўным, бо яўрэі вельмі хутка авалодвалі беларускай мовай і з мясцовым насельніцтвам размаўлялі пераважна на ёй. А ўвогуле, яўрэі часта паралельна ўжывалі беларускія словы са словамі з іўрыту і ідышу. Яшчэ этнограф **Яўхім Карскі** ў сваёй кнізе «Працы па беларускай і іншых славянскіх мовах» згадвае знойдзены каля Радашкавічаў пергаментны рукапіс, пісаны цягам 18 стагоддзя на іўрыце, ідышы і па-беларуску, але яўрэйскімі літарамі.

Часам цяжка спраўдзіць, адкуль наўпрост патрапіла слова, – з нямецкай у беларускую ці праз ідыш. Таму больш-менш спраўджанымі ідышызмамі з'яўляюцца словы **кахля (кафля), разынкі, труна, хабар**, а таксама словы з камерцыйнай галіны – **гандаль, рахунак**.

### Адкуль бутэрброд і капут

Да запазычанняў 19 стагоддзя даследчыкі-мовазнаўцы адносяць слова **бутэрброд**. У нямецкай мове **масла – die Butter**, а **хлеб – das Brot**. Праўда, у пачатку 20 стагоддзя беларускі мовазнаўца **Вацлаў Ластоўскі** ў сваім «Расейска-беларускім слоўніку» прапанаваў беларускі сінонім – **лусцік**.

У савецкі час новыя запазычанні з нямецкай мовы прыходзілі да нас праз рускую – **цэнтрыфуга, ландшафт, бухгалтар, рэнтген**. Аднак ёсць шэраг слоў, якія засталіся ў спадчыну ад Першай і Другой сусветных войнаў і трапілі ў мову без пасрэднікаў – **фельдкамендатура, зондэркаманда, гауляйтар**, а таксама гутарковыя **капут, аўсвайс**. Нагадаем, **капут** у нямецкай мове значыць **стомлены, забіты, сапсаваны, зламаны, загінулы. Аўсвайс** – дакумент, які выдавалі нямецкія ўлады. З нямецкай мовы літаральна перакладаецца як **пасведчанне асобы**.

### Як пазнаць германізмы

Часта нямецкія запазычанні траплялі ў нашу мову без змен – **пуд, штат, шнур**. Аднак значная частка была адаптаваная мовай. Напрыклад, слова **андарак** – саматканая паласатая або клятчастая спадніца, якую даўней насілі жанчыны ў Беларусі, – утварылася ад нямецкага **Underrock** – ніжняя спадніца. Слова **герб** прыйшло ад нямецкага **Erbe** – спадчына – праз польскую мову. Наша слова **цягнік** – гэта калька з нямецкай Zug.

Як пазнаць германізмы сярод шэрагу беларускіх слоў? Ёсць некалькі прыкмет:

– спалучэнні **шт, шп** пераважна ў пачатку слова – **штанга, шпіль, шпалеры, шнапс, шніцаль**;

– спалучэнне **хт** у сярэдзіне слова – **вахта, шахта**;

– суфікс **– унак (-unk)** у нямецкіх запазычаннях, адаптаваных польскай мовай – **малюнак, гатунак**;

– суфікс **–ар/-яр/-ер** – **рыцар, муляр, канцлер, гаспадар, валадар**;

– частка **майстар – гросмайстар, хормайстар**.

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

# Пра траблы з вучобай, краша Зміцера і каву па рандому

**У тусовачным месцы аднаго з гарадоў нашага рэгіёна сабралася купка падлеткаў і пачалі пра нешта размаўляць. Паслухаем пра што?**

Аліса:
– Прывітанне, сябры. Ну як вы?
Цімох:
– Хай! Ды ўсё найс. Чаго ты так даўно да нас не прыходзіла?
Аліса:
– Ды траблы з вучобай былі.
Цімох:
– Зразумела. У каго яшчэ што новага?
Андрусь:
– Ой, у мяне нядаўна быў такі кейс. Вырашылі са знаёмымі па рофлу ў кафэшку зайсці, а нам бясплатна каву далі. Аказваецца, яны па рандому ў дзень адкрыцця рабілі такія падарункі.
Воля:
– А я ўчора паюзала рэцэпт торта аднаго. У першы раз гатавала. Так крыпова было! Але ўсё атрымалася.
Аліса:
– Жыза! Я таксама баюся, калі нешта ў першы раз гатую.
Цімох:
– Ой, а з маімі бацькамі немагчыма размаўляць! Нічога не разумеюць. Кожны дзень – факап. Яны быццам олды. Нават крынжова за іх бывае часам.
Воля:
– Ой, сябры, я ліўну ненадоўга. Трэба чэкнуць, як там малая.
Андрусь:
– Ну, Воля, мы ж дамаўляліся!..
Воля:
– Не агрыся, я хутка.
Аліса:
– А ў мяне з'явіўся краш! Яго завуць Зміцер.
Цімох:
– А мы даўно вас шыперылі.
Андрусь:
– Сябры, а давайце дачакаемся Волю і сходзім пачылім у кафэшку каля майго дома. «Зоркі» называецца.
Цімох:
– Не «Зоркі», а «Зорка»!
Андрусь:
– А ты, як заўсёды, мяне фіксіш!.. А вось і Воля прыйшла. Хадземце!

*…Мне ў гэтай гутарцы зразумела ўсё. А вам?*

### Слоўнік падлеткавай лексікі

**Агрыцца** – злавацца
**Жыза** – жыццёва
**Кейс** – выпадак
**Краш** – чалавек, якога кахаеш. Магчыма, патаемна
**Крыпова** – страшна
**Крынжова** – сорамна
**Ліўнуць** – сысці
**Найс** – добра
**Олды** – старыя
**Рандом** – выпадковасць
**Рофл** – жарт
**Траблы** – праблемы
**Факап** – правал
**Фіксіць** – выпраўляць
**Хай** – прывітанне
**Чыліць** – адпачываць
**Чэкнуць** – праверыць
**Шыперыць** – хацець, каб людзі сустракаліся, былі парай
**Юзаць** – выкарыстоўваць.

Юлія ЯРАШОНАК,
вучаніца сярэдняй школы
№14 Маладзечна.

# затрымліваюць



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Затрыманне падчас пратэснай акцыі ў Маладзечне 10 жніўня 2020.

вязках затрыманага;

– парушаюць максімальны тэрмін адміністрацыйнага затрымання без вызначаных законам падстаў для гэтага;

– не даюць копію працэсуальных дакументаў у выпадку, калі такая магчымасць прадугледжаная заканадаўствам;

– адмаўляюць у магчымасці скарыстацца правам на юрыдычную дапамогу;

– кепскія ўмовы ўтрымання ў ізалятары часовага ўтрымання (ІЧУ).

### 6. Што рабіць, калі пры затрыманні вы думаеце, што парушаюць вашы правы?

Усё залежыць ад канкрэтных абставін. Калі ёсць пагроза вашаму здароўю і жыццю, не варта ісці напралом, спрабуючы любой цаной абараніць свае правы.

Калі ж у цэлым вы можаце ацаніць сітуацыю як кантраляваную, то звяртайце ўвагу службовых асоб на парушэнні, пры магчымасці фіксуйце гэтыя выпадкі ў працэсуальных дакументах, абскарджвайце дзеянні службовых асоб і вынесеныя па справе пастановы.

### 7. Якія дакументы павінны быць запоўненыя? Ці варта іх падпісваць?

Пры затрыманні з мэтай вядзення адміністрацыйнага працэсу практычна на кожным этапе складаюць пратакол працэсуальнага дзеяння – дакумент, які зацвярджае абставіны і факты, устаноўленыя пры аглядзе, асведчанні, асабістым вобшуку, адміністрацыйным затрыманні, забіранні рэчаў і дакументаў.

Сюды ж адносіцца пратакол апытання, пратакол судовага пасяджэння або пратакол пасяджэння калегіяльнага органа. Варта сачыць за тым, каб дадзеныя дакументы адлюстроўвалі вашы правы і законныя інтарэсы. Напрыклад, калі забіраюць тэхнічныя прылады, пратакол забірання стане гарантыяй таго, што мабільны тэлефон або камп'ютар не знікнуць назусім.

Трэба сачыць за тым, каб дадзеныя паказанні былі запісаныя максімальна слушна і разборліва. Там, дзе засталіся пустыя месцы, трэба паставіць прочыркі, каб у далейшым не было магчымасці туды нешта дапісаць без вашага ўдзелу.

**Адмова ад падпісання працэсуальных дакументаў з гэтага пункту гледжання неапраўданая: калі вы не падпішаце паперу, ніхто не можа даць гарантый, што дакумент не будзе заменены або перароблены ў вашу адсутнасць.**

Пры гэтым не спрабуйце рабіць працу за супрацоўніка міліцыі: чым больш памылак ён дапусціць пры афармленні дакументаў, тым больш шанцаў будзе ў вас абараніцца ад незаконных дзеянняў, калі такія маюць месца.

**Таксама варта прасіць копіі працэсуальных дакументаў. Згодна з ПВКаАП, каб атрымаць копію пастановы па справе, копію пратакола адміністрацыйнага затрымання, трэба заявіць хадайніцтва.**

Копія пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні ўручаецца асобе, у адносінах да якой вядзецца працэс, у абавязковым парадку.

**Амаль усе астатнія працэсуальныя дакументы можна капіраваць з дазволу органа, які вядзе адміністрацыйны працэс.**

### 8. Што рабіць, калі просяць разблакаваць тэлефон?

Варта ўзгадаць артыкул 27 Канстытуцыі: ніхто не можа прымушацца да давання паказанняў і тлумачэнняў супраць самога сябе, членаў сваёй сям'і, блізкіх сваякоў.

**Добраахвотнае разблакаванне тэлефона будзе азначаць фактычна вашу згоду сведчыць супраць самога сябе.**

Дадзеная норма прадубляваная таксама ў артыкуле 2.3 ПВКаАП. Заявіце таксама аб тым, што змест мабільнага тэлефона ўтрымлівае звесткі аб вашым прыватным жыцці, і вы не хочаце, каб гэта стала вядома староннім людзям.

**Можна ў тым ліку нагадаць супрацоўнікам органаў правапарадку аб праве кожнага на тайну карэспандэнцыі, тэлефонных і іншых паведамленняў.**

### 9. Што трэба ведаць пра асабісты дагляд?

Асабісты дагляд (вобшук) затрыманага праводзіцца ў мэтах выяўлення на целе ці ў вопратцы затрыманага прылад і сродкаў адміністрацыйнага правапарушэння, прадметаў, дакументаў і каштоўнасцяў, якія маюць значэнне для адміністрацыйнага працэсу.

Працэдуру выконвае асоба таго ж полу, што і затрыманы, з удзелам двух панятых таго ж полу. У выключных выпадках пры наяўнасці дастатковых падстаў меркаваць, што пры грамадзяніне знаходзіцца зброя ці іншыя прадметы, якія могуць быць выкарыстаныя для шкоды жыццю і здароўю, асабісты дагляд можа быць без панятых.

Аб асабістым вобшуку затрыманага складаюць пратакол альбо робяць адпаведны запіс у пратаколе аб адміністрацыйным правапарушэнні або ў пратаколе адміністрацыйнага затрымання фізічнай асобы.

### 10. Якія ёсць правы і абавязкі ў міліцыянера, які затрымлівае?

Пералік правоў і абавязкаў міліцыянераў устаноўлены шэрагам заканадаўчых актаў, у тым ліку ўтрымліваецца ў ПВКаАП і Законе «Аб органах унутраных спраў Рэспублікі Беларусь». Вы можаце пачытаць гэтыя дакументы цалкам.

**Галоўнае – прымусіць супрацоўнікаў міліцыі заўсёды памятаць, што забеспячэнне правоў і свабод грамадзян з'яўляецца вышэйшай мэтай дзяржавы, а недатыкальнасць і годнасць асобы гарантаваная Канстытуцыяй.**

Вядома, і самі грамадзяне павінны быць здольныя бараніць свае правы і свабоды.

# Міліцыянеры патрабуюць кампенсацыі. У Маладзечне працягваецца суд па падзеях за 9 жніўня

**Вадзіма Гурмана абвінавачваюць у актыўных дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак, і ў пагрозе гвалтам супрацоўнікам міліцыі. Прайшло ўжо чатыры пасяджэнні.**



Гурман сцвярджае, што не пагражаў міліцыянерам.

### «Заклікаў міліцыю перайсці на бок пратэстоўцаў»

15 студзеня ў судовым разборы давалі паказанні пацярпелыя міліцыянеры **Павел Сіняўскі** і **Аляксандр Цярэнцьеў**, сведка **Сямён Курэц**.

9 жніўня Сіняўскі, Цярэнцьеў і Курэц былі на службе па ахове грамадскага парадку. Усе яны бачылі Вадзіма Гурмана на маладзечанскай плошчы тым вечарам.

Сіняўскі сцвярджае, што калі Гурман стаяў побач, то ён пачуў фразу «Будзем рэзаць, вешаць. Выбірайце сабе слупы». Гурмана не затрымалі пасля гэтай фразы, таму што не было загаду ад падпалкоўніка **Руслана Манькоўскага**. Цярэнцьеў пацвердзіў, што дзеяннямі міліцыянераў на плошчы кіраваў Манькоўскі. Па яго загаду супрацоўнікі сталі ў шарэнгу, каб пратэстоўцы не дайшлі да райвыканкама.

Міліцыянеры адзначылі, што Гурман на плошчы скандаваў розныя лозунгі.

– Нічога апазіцыйнага ці супрацьзаконнага ў выразе «Жыве Беларусь!» я не бачу. А калі натоўп крычаў «Міліцыя з народам!», то яны хацелі, каб мы перайшлі ад дзейнай улады да народа, – тлумачыў Сіняўскі.

Пацярпелы міліцыянер заявіў пазву аб кампенсацыі маральнай шкоды ў памеры 500 рублёў, таму што адчуваў пагрозу свайму жыццю і здароўю. Цярэнцьеў таксама заявіў пазву аб кампенсацыі ў 1000 рублёў, бо з-за заклікаў Гурмана невядомы нанёс яму траўму.

– Гурман скандаваў, заклікаў міліцыю перайсці на бок пратэстоўцаў. А пасля стаў заклікаць наносіць цялесныя пашкоджанні і пагражаў фізічнай расправай міліцыянерам, – падзяліўся Цярэнцьеў.

Цярэнцьеў дадаў, што Гурман сказаў у бок супрацоўнікаў Маладзечанскага РАУС, што іх павесяць. Яшчэ пацярпелы лічыць, што абвінавачаны спрабаваў завесці натоўп, каб ён прарваў шарэнгу міліцыянераў, а частка людзей нават спрабавала падысці да супрацоўнікаў.

Сведка Курэц не працуе ў міліцыі з жніўня 2020 года. Па яго словах, абвінавачаны не ўяўляў для яго пагрозы.

– Не памятаю, што ён казаў. Толькі пра заробкі. Ён сказаў: «Чаму вы гэтым займаецеся за такія заробкі? Чаму вы гэта робіце?»

### «Трэба быць поўным дурнем, каб крычаць пагрозы»

19 студзеня на пасяджэнне не з'явіліся пацярпелы Лазар, сведка Цар. Яны на бальнічных. Ход судовага разбору быў зменены, дапытвалі абвінавачанага.

Гурман расказаў, што 9 жніўня гуляў з сябрамі **Сіўцом**, **Фінажонкам** і **Patapovičam**.

Яны разам прыйшлі на Цэнтральную плошчу: з сацыяльных сетак даведаліся, што там збіраюцца людзі. Праз нейкі час там з'явіліся міліцыянеры і сталі ў шарэнгу.

– Я бачыў, што на плошчы сталыя людзі, жанчыны, падлеткі – людзі розных узростаў. А яны стаяць шарэнгай з дубінкамі, быццам збіраюцца разганяць. Гэта мяне абурыла. Выйшаў паміж людзьмі і міліцыянерамі, каб выказаць сваё меркаванне. Не бачыў ніякай агрэсіі ад людзей. Падняў рукі ўверх, каб паказаць міліцыянерам, што ў мяне няма зброі, – расказаў Гурман.

Па словах абвінавачанага, ён выходзіў так тры-чатыры разы. Адзін раз сказаў міліцыянерам пра кватэры і заробкі. Іншы раз пытаўся, ці будуць міліцыянеры збіваць жанчын. І яшчэ раз запытаўся ў шарэнгі сілавікоў, як на іх будуць глядзець члены іх сямей.

Пасля Фінажонак папрасіў Гурмана больш не выходзіць, каб не справакаваць міліцыянераў. Яны адышлі да фантана ў скверы. Калі стала цёмна, Гурман пачуў з боку шарэнгі міліцыянераў крык: «Пайшлі да стэлы». Людзі павярнуліся, пайшлі да парку. Гурман жа наадварот пайшоў у бок плошчы. Там ён убачыў, як з аўтобуса выбягаюць супрацоўнікі АМАПа. Яны пачалі збіваць людзей дубінкамі, рукамі і нагамі.

– Я спужаўся, пабег да Палаца культуры. Адтуль у бок валейбольных пляцовак у парку, а пасля зноў да палаца. Праз плошчу спакойна дайшоў да піцэрыі «Пінгвін», пасля – дадому.

Дзяржаўны абвінаваўца запытаўся, ці пагражаў Гурман супрацоўнікам Маладзечанскага РАУС.

> **– Я ведаю гэтых міліцыянераў: Сямёна Курца, з якім вучыўся ў школе, і Андрэя Сцяляўку, з якім разам трэніраваўся. Ведаю іх сем'і, бацькоў. Трэба быць поўным дурнем, каб крычаць пагрозы.**

Гурман не прызнае грамадзянскія пазвы пацярпелых, бо, па яго словах, ён не пагражаў ім.

### «Сказалі, што прывядуць да нас «петуха», які нас згвалціць»

11 жніўня каля 20 гадзін Гурмана разам з Сіўцом, Фінажонкам і Патаповічам затрымалі каля парку некалькі патрулёў міліцыі і вайскоўцаў. Іх даставілі ў Маладзечанскі РАУС, дасталі з машын і кінулі на асфальт ва ўнутраным дворыку. Рукі зацягнулі ў сцяжцы, збівалі супрацоўнікі АМАПа. Гурман бачыў яшчэ некалькі дзесяткаў затрыманых.

– Хтосьці з АМАПа сказаў, што прыедуць праз гадзіну і прывядуць да нас «петуха», які нас згвалціць. Былі і супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС. Двое. Яны знялі сцяжкі і надзелі кайданкі, білі дубінкамі па спіне. Адзін сказаў, што доўга гэтага чакаў.

Гурман адмовіўся называць прозвішчы супрацоўнікаў, бо падчас суда ўтрымліваецца ў ізалятары Маладзечанскага РАУС і баіцца, што могуць быць наступствы.

– Білі не толькі мяне і маіх сяброў. Я чуў крыкі людзей. Трое ці чацвёра збівалі хлопца, які спачатку маўчаў, сціснуўшы зубы. Нам задавалі дзіўныя пытанні, я нічога не разумеў. Кшталту, хто і колькі нам заплаціў, хто каардынатар. Нічога не разумеў, з мяне знялі штаны, з сябра – шорты. Тыкалі дубінкамі ў адно месца, казалі, што адаб'юць яйцы. Хтосьці з іх крычаў «Завіце «петуха».

Гурман успамінае, што ляжалі ва ўнутраным дворыку РАУС каля шасці гадзін. Перад падпісаннем пратакола яго збівалі нагамі. У камеру завялі пасля трох гадзін ночы. 12 жніўня Гурмана асудзілі ў аддзеле міліцыі на 15 сутак. Ён выйшаў ноччу 17 жніўня.

– Я заходзіў у камеру і не ведаў, як мне легчы спаць. Мне балелі ўсе косці. Калі я выйшаў праз пяць сутак, то ў мяне яшчэ былі гематомы па ўсім целе. Я нікуды не звяртаўся. Я не выходзіў з дому некалькі тыдняў. Баяўся, што мяне вось так яшчэ раз схопяць і ні за што будуць збіваць.

Пазней сябры Гурмана Сівец, Фінажонак, Патаповіч звярнуліся ў Следчы камітэт па фактах збіцця пры затрыманні і ў аддзяленні. Гурман даў паказанні ў якасці сведкі па заявах сяброў.

– Следчая сказала, што не зможа завесці крымінальную справу на супрацоўнікаў. Яна ж сказала, што камеры ў РАУС у тыя дні былі адключаныя. Тады я даў паказанні, што мяне ніхто не біў і я нічога не бачыў.

У справе перапынак да 21 студзеня.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем чытачоў і герояў публікацый. Яны складаюць спіс любімых твораў мастацтва і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# Калі прачытаў біяграфію Мікеланджэла, сам пачаў маляваць

**Сённяшні герой «Таршэра» – маладзечанец Андрэй Мікульчык. Ён стаў оперным спеваком, займаецца з італьянскім маэстра Паола дэ Напалі.**

Яны з удзелам іншых музыкантаў рэалізавалі міжнародны праект, у межах якога ставілі оперу ў Маладзечне. Мікульчык расказвае пра свае любімыя творы мастацтва.

– У першую чаргу мне падабаюцца, канешне, музыка і тэатр, таму што я – оперны спявак. Але таксама люблю літаратуру, скульптуру і кінематограф.

### 1. «Шлях мастака» Джуліі Кэмеран

Я не вялікі аматар рознай «псіхалагічнай» і «практычнай» літаратуры, бо лічу, што ніхто не навучыць лепш, чым твой жыццёвы досвед. Але гэта кніга, напісаная простымі словамі, дапамагае знайсці сябе ў творчасці і творчасць у сабе.

### 2. «Маладыя львы» Ірвіна Шоу

Гэту кнігу чытаў ужо тры разы. І кожны раз знаходзіў штосьці новае. Твор пра трох маладых людзей, гісторыі якіх развіваюцца ў Другую сусветную вайну. Ірвін Шоу – адзін з маіх любімых пісьменнікаў.

### 3. «Трэцяя ракета» Васіля Быкава

Я хацеў бы адзначыць шмат твораў Васіля Быкава, таму што яны заўсёды кранаюць да глыбіні душы. Але адзначу менавіта гэты твор, таму што ён апошні, які я прачытаў пад аўтарствам Быкава.

Я люблю чытаць і гатовы пісаць і пісаць спіс кніг, якія лічу вельмі моцнымі. Але хачу звярнуць увагу і на іншыя віды мастацтва.

### 4. Фільм «Крымінальнае чытво» Квенціна Таранціна

Увогуле я вялікі аматар фільмаў гэтага рэжысёра. Заўсёды ўражваюся яго стылем. Мяне захапляюць яго дыялогі і маналогі герояў. Сюжэт, які заўсёды можа павярнуць такім чынам, што ты проста ахаеш. Музыка, якая заўсёды з'яўляецца менавіта такая, як таго патрабуе момант, і менавіта там, дзе і павінна.

### 5. Фільм «Спіс Шындлера» Стывена Спілберга

Фільмы Стывена Спілберга таксама займаюць важнае месца ў маім сэрцы. Менавіта гэты фільм вельмі доўгі і цяжкі да ўспрымання, таму што заснаваны на рэальных, вельмі драматычных падзеях.

### 6. «Макбет» Уільяма Шэкспіра

П'есы Шэкспіра ўражваюць дакладнасцю перадачы ўсіх, нават самых дробных характарыстык герояў. Па яго творах здымалі фільмы, пісалі оперы.

### 7. Статуя Давіда Мікеланджэла

Гэта статуя, створаная ў 1504 годзе, дагэтуль знаходзіцца ў Фларэнцыі, на радзіме вялікага Мікеланджэла. Тое, што тварыў гэты мастак і скульптар з мармуру – проста фантастыка. У 16 стагоддзі не было ўсякіх высокатэхналагічных прылад, каб апрацоўваць мармур, але Мікеланджэла стварыў шмат твораў мастацтва, якія ўражваюць прыгажосцю, маштабам і дакладнасцю.

Калі прачытаў творчую біяграфію Мікеланджэла («Мукі і радасці» Ірвінга Стоўна), я быў так уражаны, што пачаў маляваць. Пісаць партрэты стала маім маленькім хобі.

### 8. Опера «Служанка спадарыня» Джавані Баціста Пергалезі

На самой справе, гэта маленькая камічная опера – інтэрмецца. Гэта значыць, што яе выконвалі ў паўзах паміж актамі вялікай сур'ёзнай оперы.

Але так выйшла, што тую вялікую і сур'ёзную оперу амаль што забылі, а «Служанку спадарыню», напісаную ў 1733 годзе, да гэтага часу ставяць па ўсім свеце. Пергалезі было ўсяго 23 гады, калі ён напісаў гэты твор.

Я прымаў удзел у пастаноўцы гэтай оперы ў Маладзечне ў 2018 годзе.



Фота забяспечанае Андрэем МІКУЛЬЧЫКАМ.

Оперны спявак з Маладзечна Андрэй Мікульчык.

### 9. Опера «Паяцы» Руджэра Леанкавала

Гэта опера напісаная ў 20 стагоддзі, і яе музыка напоўненая рэалізмам, трагізмам і нейкай незвычайнай прыгажосцю. Гавораць, што опера заснаваная на рэальных падзеях. Але дакладна гэта невядома. Яна расказвае пра няшчаснае каханне паяца, якое разам з рэўнасцю прыводзіць да трагедыі.

### 10. Опера «Атэла» Джузэпэ Вэрдзі

Гэта адна з апошніх опер Вэрдзі, напісаная на лібрэта Арыга Бойта па матывах п'есы Шэкспіра. Музыка гэтай оперы кранае да самай глыбіні душы. Як геніяльна перададзены кожны душэўны рух героеў! Як у кожнай ноце прапісаны характар злодзея Яга, як нарастае рэўнасць у маўра!

# Хакеіст з вілейскімі каранямі дэбютаваў у НХЛ і забіў першую шайбу

**Ягор Шаранговіч дэбютаваў на мінулым тыдні ў НХЛ за «Нью-Джэрсі Дэвілз» у матчы супраць «Бостан Бруінз».**

### Першая шайба Шаранговіча

У першым матчы супраць «Бостана» на Шаранговічу некалькі разоў парушалі правілы сапернікі і выдаляліся, аднак больш ніякіх карысных дзеянняў за беларусам не заўважылі.

У другім матчы беларускі форвард закінуў у дадатковы час у матчы супраць бостанцаў.

**Шаранговіч за 1,7 секунды да канца дадатковага часу закінуў пераможную шайбу, якая для яго стала першай у НХЛ.**

Беларус стаў другім гульцом у гісторыі «Дэвілз», якому атрымалася забіць першы гол у дадатковы час – ён паўтарыў дасягненне **Джона Мерыла**.

– Гэта лепшы момант у маёй хакейнай кар'еры. Я вельмі шчаслівы, таму што мы перамаглі, а я закінуў першую шайбу ў НХЛ. Я атрымаў класны пас ад **Сіверсана** і збег на рандэву з галкіперам. Я проста кінуў па варотах. Заплюшчыў вочы і кінуў, – дзяліўся Шаранговіч.

Такім чынам, 22-гадовы Шаранговіч стаў першым беларускім хакеістам за пяць год, які адзначыўся ў НХЛ. Апошні раз беларусы закідвалі шайбы ў НХЛ у 2016 годзе: **Міхаіл Грабоўскі** забіў за «Айлэндэрс» у гульні супраць «Вашынгтона».

**І яшчэ адзін рэкорд сярод беларускіх НХЛ-аўцаў: Шаранговіч паўтарыў рэкорд Уладзіміра Цыплакова, які 25 год таму таксама закінуў у сваім другім матчы ў паўночна-амерыканскай хакейнай лізе.**

– Мая мара з дзяцінства – гуляць у НХЛ. Я ўжо згуляў два матчы, але нельга на гэтым спыняцца. Трэба шмат працаваць, каб замацавацца і даказаць, што магу тут гуляць. Адчуваю падтрымку ад сваіх бацькоў, брата, жонкі.

> **Можна сказаць, уся краіна заўзее за мяне. Мне вельмі прыемна, – падзяліўся Шаранговіч пасля двух матчаў супраць «Бостана».**

У трэцім матчы «Нью-Джэрсі Дэвілз» згулялі супраць «Нью-Ёрк Рэнджэрс». Каманда беларуса перамагла 4:3, а Шаранговіч адзначыўся перадачай, пасля якой партнёр па камандзе забіў пераможную шайбу.



Фота: Твітар Ягора Шаранговіча.

Ягор Шаранговіч.

### Як Шаранговіч трапіў у галоўную хакейную лігу свету

Кантракт з Ягорам Шаранговічам менеджары «Нью-Джэрсі Дэвілз» падпісалі яшчэ ў 2018 годзе.

**Шаранговіч выступаў за дубль «Дэвілз» у АХЛ, а пасля быў задзейнічаны ў беларускім клубе «Дынама-Мінск»**

У снежні 2020 года стала вядома, што Шаранговіч прыме ўдзел у трэніровачным лагеры амерыканскага клуба, па выніках якога вырашыцца, ці згуляе беларус у сезоне НХЛ. У Шаранговіча атрымалася замацавацца ў асноўным складзе, яго ўключылі ў заяўку на сезон.

**Настасся УТКІНА.**

# Абмеркавалі гарадскую спартакіяду

## «Маладзечнамэбля» гатовая зняцца са спаборніцтваў

**14 студзеня ў фізкультурна-спартыўным клубе «Агеньчык», што ў Маладзечне, абмеркавалі правядзенне гарадской спартакіяды ў 2021 годзе і падвялі вынікі спаборніцтваў у 2020. На сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі МЭС, ММЦ, «Маладзечнамэблі», ЦРБ, ГРАНС, «Спецбудмеханізацыі», Маладзечанскага ўпраўлення буравых работ ААТ «Белтрансгаз».**

МАЛАДЗЕЧНА

Па словах спецыялістаў фізкультурна-спартыўнага клуба, якія штогод займаюцца правядзеннем спартакіяды, пандэмія 2020 года не дала правесці спаборніцтвы па ўсіх запланаваных відах спорту. З 13 спаборніцтваў зладзілі толькі чатыры.

Ды і ў 2021 пандэмія нікуды не падзелася, і пра гэта не варта забываць, плануючы гарадскую спартакіяду, перакананы прадстаўнік «Маладзечнамэблі» **Уладзімір Станевіч**:

– У нас на прадпрыемстве шмат людзей хварэла, у многіх родныя паміраюць. Мы лічым, што варта пачакаць да канца пандэміі, а потым пачынаць спартакіяду. Вось цяпер ладзяцца спаборніцтвы па міні-футболе. У зале – каля ста чалавек толькі гульцоў. А яшчэ заўзятары. Яны не вытрымліваюць сацыяльнае дыстанцыяванне на трыбунах. Пра якую бяспеку можна казаць? Калі спартакіяду ўсё ж будуць ладзіць, наша каманда здымаецца з удзелу.

Уладзімір адзначыў, што такое рашэнне падтрымліваюць і спартсмены, і кіраўніцтва прадпрыемства.

Аднак спартакіяду вырашылі праводзіць, а калі будзе патрэба – графік зменяць у адпаведнасці з эпідэміялагічнай сітуацыяй.

Традыцыйна ў межах гарадской спартакіяды ладзяць спаборніцтвы па 13 відах спорту – лыжы, дартс, валейбол сярод мужчын і сярод жанчын, стральба, міні-футбол, гарадкі, настольны тэніс, баскетбол сярод мужчын, плаванне, шашкі, гіра. Сюды ж дадаецца і турыстычны злёт летам. Па васьмі відах спорту падводзяць вынікі і вызначаюць лепшую каманду.

Ад прадстаўнікоў прадпрыемстваў былі прапановы ладзіць спаборніцтвы па гіравым спорце не ў памяшканні, а на вуліцы: так і для спартсменаў лепш, і ў час неспрыяльнай эпідсітуацыі больш бяспечна. Таксама звярнулі ўвагу на тое, што спаборніцтвы па лыжах і плаванні больш мэтазгодна праводзіць не ў выглядзе эстафеты, а як асабова-каманднае першынство.

Калі надвор'е будзе спрыяць, першыя спаборніцтвы, па лыжным спорце, правядуць ужо ў студзені. Яны пройдуць у гарадскім парку. Як адзначыла галоўны спецыяліст аддзела спорту Маладзечанскага райвыканкама **Вольга Ціхановіч**, спаборніцтвы па ўсіх відах спорту, якія ладзяцца на свежым паветры і ў басейне, цяпер дазволеныя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Кампазітар Клінт Мэнсел напісаў музыку для фільма «Рэквіем па мары». Але папулярнай стала памылка, нібы аўтар кампазіцыі – адзін з класікаў, назавіце, хто менавіта.
3. Насельнік.
4. З рамана Оскара Уайльда «Партрэт Дарыяна Грэя»: «... натхняюць нас на вялікія справы, але вечна перашкаджаюць нам іх ствараць».
6. Снарад, начынены выбуховым рэчывам.
7. Пасудзіна цыліндрычнай формы з дужкай, у якой носяць або захоўваюць ваду і іншыя вадкасці.
11. Кожны з сыноў у адносінах да другіх дзяцей гэтых жа бацькоў.
12. Прыпынак нанач для сну, адпачынку; начны адпачынак.
13. Васьмёра беларускіх паэтаў, якія атрымалі званне народных. Першым стаў Янка Купала. Першым мог стаць Цішка Гартны, назавіце яго сапраўднае прозвішча.
15. Не без падстаў, не без прычыны.
16. Від выяўленчага мастацтва, які перадае прадметы і з'явы навакольнага свету пры дапамозе фарбаў.
17. Па адной з версій, гэта сталіца атрымала назву таму, што па задуме заснавальніка павінна была арасіць хрысціянскай верай душы язычнікаў.
22. Характар, тэмперамент чалавека.
24. З рамана Оруэла «1984»: «Лепшыя ..., зразумееў ён, гавораць табе тое, што ты ўжо сам ведаеш».

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Поспех у змаганні.
3. Эластычная гумавая трубка, бінт або іншы падобны прадмет, якімі перавязваюць канечнасць, каб спыніць крывацячэнне.
5. Спажыванне ежы вечарам.
6. Выданне, надрукаванае на адным лісце і складзенае ў выглядзе гармоніка.
8. Прычына, выпадак.
9. Прозвішча беларускага пісьменніка, пра хрэстаматыйны твор якога Барыс Сачанка пісаў у дзённіку: «Але прачытаў 100, 200, 300 старонак – Божа мой, якая проза! Пасля Кузьмы Чорнага нічога падобнага не было. Сказаў у рэдакцыі гэта – скептычна ўспрынялі: маўляў, малады хлопец, што ён яшчэ разумее ў літаратуры. Ад яго ніхто не чакаў, што ён напіша што вартае».
10. Высокая, пераважна конусападобная пабудова спецыяльнага прызначэння.
11. Паветраны шарык у вадзе або іншай вадкасці.
14. Гукі, якія ўзнікаюць пры размове, крыку або спеве.
16. Мова прафесійнай або сацыяльнай групы, насычаная вялікай колькасцю слоў і выразаў, спецыфічных толькі для гэтай групы.
18. Той, хто імкнецца да гвалтоўнага авалодання чым-небудзь.
19. Хто сасватаў каралю Ягайлу трэцюю жонку, княжну Соф'ю, ад шлюбу з якой нарадзіўся сын Уладзіслаў, які пасля стаў каралём вугорскім і польскім, і сын Казімір, які пасля стаў каралём польскім і вялікім князем Літоўскім.
20. Недахоп.
21. Гара з кратарам на вяршыні, праз які час ад часу вывяргаюцца лава, агонь, попел.
23. Здольны да хуткіх і спрытных рухаў.

## Адказы на крыжаванку з №3

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Бразілія. 3. Праўда. 4. Гушкаць. 5. Сыночак. 9. Прысуд. 10. Гонта. 12. Грукат. 13. Трэфы. 15. Фенікс. 16. Касцюшка. 18. Паборы. 19. Хутар. 21. Павуціна. 22. Табліца. 23. Павестка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Шахматы. 6. Харч. 7. Насарог. 8. Танкер. 11. Хмара. 12. Густы. 13. Танец. 14. Юнак. 17. Тупат. 19. Хрып. 20. Калыханка. 24. Іліяда.

## ● ГАРАСКОП НА 22-28 СТУДЗЕНЯ

**АВЕН.** Вас напаткае дух авантурызму і жадання адправіцца на прыгоды. Магчыма, вы нават адчуеце жаданне і магчымасць рызыкаваць чым-небудзь. Рызыка, звязаная з фінансамі, можа аказацца паспяховай. Добра пройдуць навучальныя мерапрыемствы.

**ЦЯЛЕЦ.** Паўстануць пытанні, якія даўно вас турбавалі, але адказу не знаходзілі – ці сапраўды вас задавальняе цяперашняя праца, месца жылля. Калі вы атрымаеце адказы на гэтыя пытанні, то знойдзеце новыя магчымасці.

**БЛІЗНЯТЫ.** У гэты перыяд важна пастарацца як мага менш часу праводзіць сам-насам. Пастарайцеся быць з калегамі, сям'ёй, сябрамі. У выхадныя было б выдатна прыняць гасцей і звярнуць увагу на тое, каб паклапаціцца пра якасны сон.

**РАК.** У вас будзе шмат рабочых пытанняў, якія атрымаецца вырашыць без лішніх складанасцяў. Спрэчкі могуць прынесці больш шкоды, чым карысці – замест таго, каб знайсці ўзаемапаразуменне, адшукаеце больш рознагалоссяў.

**ЛЕЎ.** Магчыма, некаторыя кліенты акажуцца зусім няпростымі ў супрацоўніцтве, чым вы чакалі. Абавязкова арганізуйце вечар размоў са сваёй другой палавінкай, вам абаім гэта моцна пойдзе на карысць. Клапаціцеся пра тое, што ясце.

**ДЗЕВА.** Рызыкоўныя сітуацыі спярша будуць выглядаць як шматабяцальныя шанцы. Але будзьце пільныя і ўзважвайце наступствы загадзя. Ваша дапамога будзе вельмі важнай для блізкага чалавека, пастарайцеся не адмаўляць і зрабіць патрэбнае.

**ШАЛІ.** Будзьце акуратныя і пазбягайце сітуацый, якія могуць закончыцца траўмамі. На забаўляльных мерапрыемствах будзьце асцярожныя з малазнаёмай ежай. А вось ад размоў з блізкімі не адмаўляйцеся.

**СКАРПІЁН.** Спрэчкі з партнёрам могуць імгненна разрасціся, прычым да такіх памераў, што вы самі будзеце не рады. Атрымаецца вырашыць сур'ёзнае пытанне з жыллём або сям'ёй, якое аблегчыць жыццё на бліжэйшы час.

**СТРАЛЕЦ.** Будзьце асцярожныя за рулём, асабліва калі кіроўцам будзеце вы. Планы, звязаныя з падарожжамі або гасцямі, могуць адмяніцца ў апошні момант. Перспектыўнымі будуць пытанні, звязаныя з фінансамі.

**КАЗЯРОГ.** Важна захоўваць рэалістычнасць пры ацэнцы актуальнай сітуацыі, асабліва калі яна будзе тычыцца грошай. На выхадных зоркі раяць вам аддацца віру рамантычных прыгод або арганізаваць іх самастойна.

**ВАДАЛЕЙ.** Будзе няпростая сітуацыя, звязаная з вашай рэпутацыяй. Трымайцеся поглядаў, у якія верыце, беражыце гонар і годнасць. Дома старайцеся дапамагаць ствараць цёплую атмасферу, якая дапамагае расслабіцца і адпачыць.

**РЫБЫ.** Магчымыя новыя прыемныя знаёмствы з суседзямі або новымі калегамі. Удалымі будуць ініцыятывы, звязаныя з культурай і мастацтвам. Выхадныя будуць поўныя рамантыкі, і гэта будзе вам вельмі па душы.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | 6 | 3 | | | | | 1 |
| 3 | | | | 4 | | | 6 | 7 |
| | 5 | 4 | | | | 3 | | |
| 4 | 7 | | 6 | | 9 | | | |
| | 6 | | 5 | | 7 | | | |
| | 2 | 9 | | 1 | | | | |
| | | | 8 | | | 9 | 5 | 4 |
| 9 | | | | | | | 3 | 2 |
| | | | | | | 1 | 8 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



# Рэгіянальная газета. Rh.by




# Завяршыўся трэці этап рэспубліканскай алімпіяды па прадметах

## Глядзіце, у якіх школ Вілейшчыны найбольш дыпломаў

ВІЛЕЙКА

**Трэці этап рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах ладзілі ад 11 да 14 студзеня. Вілейскі раён прадстаўлялі 42 вучні. Удзельнічалі прадстаўнікі з вілейскіх СШ №№1, 3, 5, абедзвюх гімназій, школ з Ільі і Вязыні.**

Сёлета больш за палову з іх прывезлі дамоў дыпломы. У скарбонцы вілейчукоў 4 дыпломы першай ступені, 9 дыпломаў другой ступені і 11 – трэцяй, паведамляюць ва ўпраўленні адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама.

> Найбольш дыпломаў атрымалі вучні Вілейскай гімназіі №2 і СШ №3.

У абедзвюх установах – па сем дыпломаў. Заўважаюць станоўчую дынаміку выніковасці вучняў СШ №1 і СШ №5. Дыпломамі пераможцаў адзначаныя таксама і ўдзельнікі з сельскіх школ – з Ільі і з Вязыні.

У разрэзе навучальных прадметаў найбольшую колькасць дыпломаў прывезлі ўдзельнікі алімпіяды па фізкультуры і здароўі – 8 дыпломаў, біялогіі – 4, англійскай мове – 2, беларускай мове – 2, хіміі – 2, рускай мове – 2, астраноміі – 1, матэматыцы – 1, грамадазнаўстве – 1, працоўным навучанні – 1.

Некаторыя з пераможцаў выступяць на апошнім, чацвертым, этапе алімпіяды. Перамога на апошнім этапе алімпіяды дае магчымасць паступіць у адпаведную ВНУ без цэнтралізаванага тэставання.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Якіх спецыялістаў шукаюць у рэгіёне і якія заробкі ім прапануюць**

## 23 студзеня, субота

**Вецер:** паўднёвы, 4-5 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -24,8°С у 2006 годзе
Максімальная тэмпература +5,6°С у 1993 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10 мм у 2007 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Ці хацелі б вы прышчапіцца да каронавіруса?

Ад панядзелка на Вілейшчыне пачынаюць прышчапляць медыкаў расійскай вакцынай, пасля – чарга настаўнікаў. Падрабязнасці чытайце на старонцы 5.

Падрабязнасці чытайце на старонцы 5.



**Павел, Вілейка:**
– Так, толькі не расійскай вакцынай.



**Валянціна, Маладзечна:**
– Не. Я лічу, каб зрабіць прышчэпку, чалавек павінны быць цалкам здаровы, а ў нас ужо так не атрымаецца.



**Юры, вёска Краснае ў Маладзечанскім раёне:**
– Асабіста я не супраць вакцыны, а толькі за. Але «Спутнику» не давяраю, як і многія іншыя.



**Вольга, Маладзечна:**
– Не, я супраць прышчэпак. Не рабіла прышчэпку ад грыпу, тым больш ад кавіда прышчапляцца не буду.



**Людміла, Маладзечна:**
– Не. Гэта вакцына яшчэ не да канца даследаваная. Невядома, якія могуць быць наступствы. Патрэбны час, каб вакцыну запатэнтавалі. Падследным трусікам быць мне не хочацца. Гэта выключна маё меркаванне. Яно ніякімі фактамі не пацверджанае, я не вучоны і не медык.



**Алена, Маладзечна:**
– Не, я лічу, што вакцына «Спутник» не прайшла цалкам клінічныя выпрабаванні.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**




Рэгіянальная газета. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№4 (1343) 22.01.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 107. Падпісана ў друк у 9.00 21.01.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**




Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.